

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 33 (1548) | 19 ЖНІЎНЯ 2021 г.

# Цёплыя вечары ... ды халодныя ранкі ...




Землі, па якіх цячэ рэчка Лебяда, як і ўся Лідчына, знаходзяцца на тэрыторыі колішняга яцвяжскага племені дайнава. Дайна па-яцвяжску - песня. Таму дайнаўцаў можна назваць песенным народам. Дык і не дзіва, што на Лідчыне спяваюць: усюды, многа і прыгожа. Па законе прыроды адходзяць пакаленні, узрастаюць новыя, адходзяць і песні.

Клопат захаваць, запісаць гэтыя песні з'явіся яшчэ ў пачатку 19-га стагоддзя. Не будзем тут, аднак, імкнуцца пераказаць гісторыю беларускага фальклоразнаўства. Засяродзімся на Лідчыне.



У 1992 годзе ў Польшчы выйшла кніга Земавіта Фядэцкага з маёнтка Лебяда Лідскага павета **"Цёплыя вечары ….. ды халодныя ранкі, czyli co spiewano w Fieliksowie"**, у якую ўвайшлі беларускія народныя песні, запісаныя пераважна ў вёсцы Феліксава Лідскага раёна ў 1942-43 гадах. Земавіт Фядэцкі хаваў рукапіс гэтых песень амаль 50 гадоў, як быццам не было нічога больш каштоўнага, што варта было б схаваць ці вазіць з сабой: і праз вайну, і праз пасляваенную разруху, і праз варшаўскі побыт, такі далёкі ад страчанай, як падавалася, навек Беларусі. За ўсім гэтым бачна вялікая любоў Земавіта Фядэцкага да малой радзімы. І радзіма адказала яму такой жа любоўю. У 2017 годзе на Лідчыне па ініцыятыве рэдактара часопіса "Лідскі летапісец" і газеты "Наша слова" Станіслава Судніка, і дзяржаўнай установы "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" быў заснаваны адкрыты рэгіянальны фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага. Гэта адбылося ўсяго праз восем гадоў пасля смерці Фядэцкага, што і многім вялікім было б за гонар.


9 772073 703003 21033

Сёлета фестваль праходзіў ужо ў трэці раз і ўжо па традыцыі пачаўся з загалоўнай песні "Цёплыя вечары..." ў выкананні жаночай фальклорнай групы з Мажэйкаўскага Дома культуры. Сёлета выступленні адбываліся на адкрытай пляцоўцы ў самым цэнтры Мажэйкава, і песні як і некалі разляталіся далёка па наваколлі, магчыма, дасягалі і недалёкага таго самага Феліксава.



У конкурсе бралі ўдзел 12 удзельнікаў (выканаўцаў і калектываў) з усёй Лідчыны. Майстар-клас даваў Заслужаны аматарскі калектыў "Гасцінец" з Ракава Валожынскага раёна пад кіраўніцтвам Лізаветы Пятроўскай.

Гучалі песні са зборніка Земавіта Фядэцкага, а таксама запісаныя ў розных іншых вёсках Лідскага раёна.

Доўгі час зборнік Земавіта Фядэцкага лічыўся адзіным зборнікам лідскага песеннага фальклору. Аднак у 2018 годзе падчас працы над дакументальнай аповесцю пра славуты род Іваноўскіх з Лябёдкі (сённяшняя вёска Галавічполле) лідскі пісьменнік Леанід Лаўрэш знайшоў інфармацыю пра тое, што Алена Іваноўская , сястра беларускага нацыянальнага дзеяча Вацлава Іваноўскага , выпускніца Кембрыджскага ўніверсітэта ў перыяд недзе ад 1905 да 1912 года запісала ў ваколіцах Лябёдкі вялікую колькасць беларускіх народных песняў. І недзе праз 110 гадоў пасля запісу на Лідчыне прагучалі дзве песні са зборніка "Закуй, закуй, зязюленька рана..." Алены Іваноўскай, які быў выдадзены да фестывалю пры чынным удзеле газеты "Наша слова".






Выстпленні ўдзельнікаў можна было слухаць без канца. Але конкурс ёсць конкурс, і журы, якое ўзначальваў рэдактар газеты "Наша слова" Станіслаў Суднік, было вымушана вызначаць пераможцаў.

Лаўрэатамі І ступені сталі:

1. Жаночы фальклорны гурт, філіял "Мажэйкаўскі Дом культуры";

2. Філіпава Аляксандра, Жыдзіс Данута, Кавалеўская Зінаіда ("У канцы грэблі шумяць вербы"), в. Мінойты.



Лаўрэаты II ступені:

1. Кароль Іван, (песня "Ходзіць туман", са зборніка З. Фядэцкага), аг. Ваверка;

2. Сакалоў Дзмітрый ("А ў полі бяроза"), п. Першамайскі.

Лаўрэаты III ступені:

1. Парфенчык Інэса ("Сабірала дзяўчынунька" са зборніка А. Іваноўскай), аг. Бердаўка;

2. Фальклорнае аматарскае аб'яднанне "Ульяніца", філіял "Ганчарскі Дом культуры".

Усе астатнія атрымалі дыпломы ўдзельнікаў.

Трэці фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага паспяхова адбыўся. І гледзячы па тым, што акрамя носьбітаў народныя песні выконваюць і моладзь і дзеці, можна сцвярджаць: беларуская народная песня на Лідчыне жыве і будзе жыць. Курс - на чацвёрты фестываль.

***Яраслаў Грынкевіч.***

## Газета Менскай гарадской арганізацыі ТБМ "Новы час" спыняе выхад на паперы

Прыватная друкарня "Roll Print", у якой друкавалася газета "Новы час", паведаміла рэдакцыі, што з 12 жніўня не зможа аказваць паслугі. Прычынай назвалі *"змяненне вытворчага цыклу і ўзніклыя праз гэта вытворчыя складанасці"*.

Ліст з друкарні прыйшоў яшчэ 27 ліпеня, з таго часу рэдакцыя шукала магчымасьць друкавацца ў іншых друкарнях, але без плёну. "Новы час" паведаміў, што спыняе выхад на паперы.

*"На жаль, на наступным тыдні нашы чытачы больш не ўбачаць любімую газету ў паштовай скрыні, прынамсі, не пры гэтай уладзе, відаць"*, - напісала рэдакцыя.

- Друкарня, з якой мы супрацоўнічаем з 1999 года яшчэ, калісьці мы друкавалі там газету "Згода", а з 2007 года друкуем газету "Новы Час", - распавяла галоўная рэдактарка "Новага Часу" Аксана Колб: - Ліст гэты прыйшоў 27 ліпеня, акурат на




Дзень незалежнасці. Увесь гэты час мы спрабавалі вырашыць пытанне з гэтай друкарняй, і магчыма знайсці іншую, але, відавочна, што ўсё гэта было марна. Таму вось такое вымушанае рашэнне - "Новы Час" спыняе пакуль што выхад папяровай версіі. Але сайт працуе, сацсеткі працуюць. Думаю, што мы зробім нешта новае яшчэ і на сайце. Прынамсі, зараз мы над гэтым думаем, каб нашым чытачам было больш зручна і больш цікава. Гэта не катастрофа, я ўпэўнена, што мы вернемся, магчыма, гэта будзе новы фармат. І гэта ўсё дасць нейкі новы імпульс для развіцця.

Раней "Белпошта" не ўключыла "Новы час" у падпісны каталог на другое паўгоддзе. З ліпеня рэдакцыя рассылала газету ў канвертах.

***Паводле СМІ..***

## Беларусы запусцілі бясплатны анлайн-курс па вывучэнні роднай мовы

Грамадская кампанія "Годна" пачала моўнае шоў "Гоман". Гэта сапраўдны анлайн-курс па вывучэнні роднай мовы, што будзе ўключаць у сябе 12 заняткаў.

Стваральнікі абяцаюць, што вы пачнеце вольна гаварыць па-беларуску, калі пройдзеце ўсе заняткі.

Першы выпуск прысвечаны словам вітання, развітання, просьбы і падзякі. Ён ужо дасяжны на ютуб-канале: https://youtu.be/a7SRpOGBNSM Вядоўцы - Андрусь Такінданг і Аляксей Шэін. Мэта праекта простая і складаная адначасова: зрабіць так, каб беларусы маглі вольна карыстацца беларускай мовай у любой сітуацыі. З цягам часу з'явяцца 12 заняткаў. Публікаваць іх будуць на ютуб-канале "Годна", таму раім падпісацца на яго ўжо цяпер, каб нічога не прапусціць:




https://youtube.com/hodnaby. У межах курса сабрана самае важнае пра беларускую мову. Тут ёсць і карысны кантэнт, і моўны гумар, і цікавосткі пра Беларусь, і выбарка найлепшага з нашай культуры.

Анлайн-курс цалкам бясплатны, але для таго, каб усе 12 выпускаў выйшлі своечасова і атрымаліся якаснымі, арганізатары просяць падтрымкі. Вы можаце аформіць спонсарскую падпіску на ютуб-канал, чым вельмі дапаможаце праекту. Таксама для праекта "Гоман" створаны адмысловы акаўнт у тыктоку, дзе будуць публікаваць кароткія ўрокі: https://tiktok.com/@homanby.

***Паводле СМІ.***

## Канверт да Дня беларускага пісьменства

Сёлета 4-5 верасня ў Капылі адбудзецца Дзень беларускага пісьменства і друку. Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь з 16 жніўня выпускае ў абарачэнне канверт з арыгінальнай маркай "Капыль. Дзень беларускага пісьменства". Спецыяльнае памятнае гашэнне канверта адбудзецца ў Капылі 5 верасня ў аддзяленні паштовай сувязі № 2 Капыля.




Аўтарам канверта і спецштэмпеля з'яўляецца Тацццяна Дольская, дызайнерам - Марына Віткоўская.

***Беларускае Радыё Рацыя.***

## Празаік, казачніца, перакладчыца пакінула разнастайную літаратурную спадчыну



На 99-тым годзе жыцця адышла найстарэйшая пісьменніца Беларусі Алена Сямёнаўна Васілевіч, заслужаны работнік культуры БССР (з 1978 года).

Алена Васілевіч нарадзілася 22 снежня 1922 года ў засценку Даманшчына, (цяпер вёска Ліпнікі), Слуцкага раёна Менскай вобласці ў сям'і ляснога аб'ездчыка. Засталася без бацькоў на восьмым го-дзе жыцця і выхоўвалася ў сваякоў.

Таленавітая дзяўчына скончыла літаратурны факультэт Рагачоўскага настаўніцкага інстытута ў 1941 годзе. У час Вялікай Айчыннай вайны яна працавала бібліятэкаркай у шпіталі, пісаркай шыхтовай часткі, начальніцай бібліятэкі.

У 1946 г. яна скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала літкансультанткай у Курскім абласным выдавецтве (1946-1950). З 1950 г. яна была загадчыцай аддзела культуры часопіса "Работніца і сялянка", а ў 1972-1980 гг. - загадчыцай рэдакцыі літаратуры для юнацтва выдавецтва "Мастацкая літаратура", у 1981-1983 гг. - загадчыцай рэдакцыі літаратуры для юнацтва выдавецтва "Юнацтва".

У літаратуру Алена Васілевіч прыйшла як празаік. Першы мастацкі твор, аповесць "У прасторах жыцця", яна надрукавала ў 1947 годзе ў часопісе "Беларусь".

Выходзілі яе творы: "Шляхі-дарогі" (1950), кніжкі апавяданняў: "Блізкія знаёмыя" (1954), "Заўтра ў школу" (1956), "Сябры" (1958), "Апавяданні" (1959), "Падслухала сэрца" (1960), "Калінавая рукавічка" (1963), "Я з вамі" (1964), "Пісар страявой часці" (1969), "Адно імгненне" (1975), "Шурка Рэмзікаў" (1985), зборнік апавяданняў і аповесцей "Мыс Добрай Надзеі" (1977).У цэнтры ўвагі пісьменніцы знаходзіліся жыццё і праца сучаснікаў, праблемы асабістых узаемаадносін, маралі, выхавання дзяцей. На аўтабіяграфічным матэрыяле ёй была напісана тэтралогія "Пачакай, затрымайся…", якую склалі аповесці "Расці, Ганька" (1966), "Доля знойдзе цябе" (1968), "Новы свет" (1968), "Пачакай, затрымайся…" (1970), дзе паказаны нялёгкі шлях у жыццё сялянскай дзяўчыны, духоўнае сталенне чалавека. У 1980-тыя гады А. Васілевіч выступіла аўтаркай кніг: "Люблю, хвалююся, жыву" (нататкі, эсэ, 1986), "Элегія" (апавяданні, эцюды, эсэ, 1988).

Засведчыла Алена Васілевіч і талент казачніцы: даўно любімым творам дзяцей стала яе казка "Калінавая рукавічка", якая ўвайшла ў беларускую дзіцячую класіку.

Пісьменніца пераклала на беларускую мову аповесць М. Стэльмаха "Гусі-лебедзі ляцяць" (1975), раман Д. Дэфо "Дзіўныя прыгоды марахода Рабінзона Круза" (1976), аповесць Г. Башырава "Зялёная мая калыска"(1981) і іншыя.

Творы Алены Васілевіч дакладныя ў апісанні побыту і раскрыцці характараў чалавека, у іх паэтычнае бачанне свету, стрыманая, даверлівая манера апавядання, жывая народная мова. Былі выдадзены выбраныя творы пісьменніцы ў 3 тамах (1982-1983).

Алена Васілевіч узнагароджана Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР і Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета УССР, ордэнам "Знак Пашаны", медалямі. За тэтралогію "Пачакай, затрымайся…" ў 1976 годзе ёй прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР.

У 2002 годзе выходзіла кніга пісьменніцы "Першая жонка нябожчыка". У яе ўвайшлі апавяданні, напісаныя ў апошнія гады.

***Падрыхтавала Э. Дзвінская.***





*Архіўная гутарка*

# Алена Васілевіч: *"Калі ёсць талент - будзе і дабрабыт…"*

Не стала старэйшай найвыдатнейшай беларускай пісьменніцы Алены Васілевіч. Яшчэ ў 2013 годзе я зрабіў з ёй гутарку. Гэта гутарка ў Беларусі нідзе не друкавалася. А яна вельмі цікавая. Таму прапаную яе сёння чытачам "Нашага слова". Размова будзе карысная для ўсіх нас.

Пісьменніца Алена Васілевіч нарадзілася ў 1922 годзе на Случчыне. Рана засталася без бацькоў, таму выхоўвалася ў сваякоў. У 1941 годзе скончыла Рагачоўскі настаўніцкі інстытут, а пасля Другой сусветнай вайны - Белдзяржуніверсітэт.

Працавала літкансультантам у Курскім (Расія) абласным выдавецтве. У 1950 годзе вярнулася на Радзіму. Працавала загадчыкам аддзела культуры ў часопісе "Работніца і сялянка", потым - у менскіх выдавецтвах "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва". Напісала і выдала дзясяткі кніг апавяданняў і аповесцей, нататкаў і эсэ. За тэтралогію "Пачакай, затрымайся…" атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі ў 1976 годзе.

Алена Сямёнаўна пагадзілася адказаць на некалькі маіх пытанняў.

*- Алена Сямёнаўна, гэта дзякуючы Вам я пачаў займацца літаратурай. Па суседству са мной у роднай вёсцы на Слонімшчыне жыла такая баба Саня, дзе я з яе ўнукам штодня бывалі ў ейнай хаце, а яна нам распавядала пра Вашу Ганьку. Яна так любіла Вашу Ганьку, што мне здаецца, яна нікога так не любіла і не шкадавала на свеце, як Вашу Ганьку. Яна плакала, чытаючы яе, радавалася. І нам дзеткам пастаянна расказвала аб тым, што прачытала ў Вашай кнізе. Расказвала ўсё да драбніц, і нават сама трохі дабаўляла свайго. А мы слухалі яе днямі і начамі. Ганька для нас была нейкай святой дзяўчынай, хоць кожны з нас пасвойму яе ўяўляў. Але баба Саня казала, што пісьменніца Алена Васілевіч піша працяг Ганькі. І яна чакала працяг кнігі. І дачакалася новага выдання і зноў чакала працяг... Яна і мы верылі, што ёсць Ганька, што яна будзе шчаслівай. Мне здаецца, баба Саня бачыла сябе ў вобразе Ганькі з такім нялёгкім лёсам. Вось менавіта Ваша Ганька, калі я прыходзіў дамоў (а мама мяне гадавала адна), я садзіўся за стол і нешта пісаў, пісаў працяг Ганькі, працяг яе лёсу. Не атрымлівалася. Я тады пачаў пісаць вершы, дасылаў у часопіс "Бярозка" і газету "Піянер Беларусі". А сёння праз столькі гадоў (эх, жыла б баба Саня!) мне лёс выпаў з Вамі пагутарыць. Гэта проста нейкі цуд!.. Мне здаецца Ваша Ганька, Ваша тэтралогія "Пачакай, затрымайся…" зрабілі Вас народнай пісьменніцай Беларусі. Я паўтараю - народнай, хоць гэтага звання ў Вас няма. Але Вы ўсё ж для майго пакалення, старэйшых і маладзейшых людзей былі і застаецеся народнай пісьменніцай. Ды і Леанід Галубовіч летась пісаў пра Вас і сказаў, што "Алена Васілевіч пачалася з Ганькі". Што значаць для Вас кнігі пра беларускую дзяўчынку Ганьку?...*



- Што значыць для мяне мае кнігі "пра Ганьку" - тэтралогія "Пачакай, затрымайся…"? Леанід Галубовіч - таленавіты паэт і крытык (мой добры сябра) пісаў (і крыху памыліўся і… не памыліўся): "Алена Васлевіч пачалася з Ганькі". Але ж у мяне яшчэ былі і "Шляхі-дарогі", пасля выхаду іх з друку я раптам "прачнулася знакамітай"…На бязрыб'і і рак рыба. А як жа? Першая ў беларускай літаратуры, пасляваеннай - жанчына-празаік. Ды яшчэ жыве ў Курску і піша… беларускую прозу! І мусіць жа яшчэ маладая… Сенсацыя! Так часам, невядома адкуль з'яўляецца "слава"… "Шляхі-дарогі" мае ў тыя 1948-1949-я гады былі і праўда не з самых зарослых пустазеллем і чартапалохам "літаратурных дарог"…

А да гэтага ў мяне была яшчэ маленькая аповесць "У прастор жыцця" (якая "арыгінальнасць" назвы - ды пасля Якуба Коласа!). І за яе ў 1947 годзе мяне прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Так што Лёня Галубовіч не быў "гістарычна" дакладны. Не скажу, каб ад усяго таго мяне апанавала зорная хвароба. Але ж усё роўна было прыемна. Хоць і дзіўна.

А Ганьку нарадзілі мне мае ўласныя дзеці - раскажы, як ты была малая. Бясконца мучылі яны мяне, і я расказвала. І неяк зусім няўзнак напісалася апавяданне "Радасці жыцця". Тады мне ўжо сапраўды не стала спакою. "Друкаваныя літары" пра Ганьку надалі маім дзецям як быццам уладу нада мною… "Напішы, што было далей!!!"

*- І Вы пісалі?*

- Так. І я пісала, і я не магла развітацца з Ганькай, пакуль не напісала чатыры кнігі пра яе лёс.

*- А ці пастаўлены па Вашай тэтралогіі мастацкі фільм? А можа і ёсць, ды я не ведаю?*

- Не, мастацкага фільма не было. Быў тэлеспектакль, разыграны акцёрамі. Усё, як мае быць… Але лепей бы яго не было. Атрымалася такая шэрая сумота, што я пазбягала страчацца са знаёмымі: а раптам глядзелі-бачылі. Дзякуй Богу, ён не доўга "ўпрыгожваў" тэлеэкран. Ды каб мяне забілі -сама б другі раз не зірнула б у яго бок! Сорам. Жах.

Затое беларускае радыё "ўзнесла" Ганьку! 8 частак радыёспектакля, пастаўленага Тацянай Аляксеевай. Ігралі (яшчэ ўсе былі жывыя!) лепшыя акцёры-купалаўцы залатога веку. Ганьку іграла тады яшчэ зусім маладая актрыса Тэатра юнага гледача Вера Кавалерава. Усіх не злічыць. І за гэта я дзякую ім і сёння. Ганька гучыць штогод, і запіс захоўваецца на радыё ў залатым фондзе… Ну, то і хопіць пра яе, Ганьку.

*- Вы неяк сказалі, што ад літаратуры не ведаеце пакут. Але літаратура 1960-х-1980-х гадоў адрозніваецца ад літаратуры сённяшніх дзён і дабрабыт пісьменнікаў адрозніваецца сёння ад дабрабыту пісьменнікаў другой паловы XX стагоддзя. Ці не так?*

- Не, пакуты я ведаю ад жыцця, а не ад літаратуры. Проста не пакутую тады, калі мне "не пішацца" (як у сапраўдных "стараннікаў"). Нават, мусіць, сам Леў Талстой не пакутаваў, калі "не пісалася", а шыў боты, сеяў і касіў… "Ні дня без радка" - гэта не пра мяне сказана. Што належыць дабрабыту, дык ён залежыць не ад часоў - ад умельства, спрыту яго наладжваць. Ёсць гэты талент - будзе і дабрабыт. А няма - дык і дабрабыту не будзе. Будзе тое, што ёсць.

*- Алена Сямёнаўна, Вы 22 гады адпрацавалі ў цікавым(!) часопісе "Работніца і сялянка" (цяпер здаецца гэта часопіс "Алеся"), я не чытаю яго. А раней чытаў. Раней "Работніцу і сялянку" выпісвалі амаль у кожны беларускі дом. Сёння - не ведаю. Што Вам памятаецца з таго часу вясёлае, добрае, сумнае?*

- "Работніца і сялянка"! О, гэта быў самы ўдзячны, самы жыццядзейны і самы жыццядайны час. Я была ў рэдакцыі самая маладая, яшчэ не стомленая ні камандзіроўкамі, абавязковым штомесяц "прыгонам" напісаць і здаць гатовы нарыс, артыкул, фельетон, рэцэнзію, апавяданне, дыялог з героем гутаркі (У набор! У набор!) Калектыў быў добразычлівы, дружны. Перад рэдакцыяй і журналістамі лёгка адчыняліся нават самыя высокія службовыя дзверы. Ніводнае пісьмо чытачоў не заставалася без адказу, ніводная скарга - без увагі і дапамогі. Я ганарылася сваёй рэдакцыяй, сваёй працай і марыла, каб і дзеці мае былі журналістамі. Яны абралі іншую - кожны сваю - дарогу...

Верай і праўдай паслужыла я любай "Работніцы і сялянцы" 22 гады. І сёння ўспамінаю, як родную сястру. На змену маёй "старой сястры" прыйшла маладая "Алеся". Яна ўжо зусім, зусім другая, іншая, з іншага ўжо свету. У яе свая, ужо сённяшняя харызма…

*- Адну са сваіх кніг Вы назвалі "Люблю, хвалююся - жыву". Каго любіце, што хвалюе і чым жывяце сёння?*

- "Люблю, хвалююся - жыву" - так, была ў мяне такая кніга (яна і ёсць…). Невялікім выдавецкім памерам, але - для мяне асабіста - з вельмі вялікім эмацыянальным абсягам. Вядома, з часам, які мінуў з той пары, абсяг гэты звузіўся, на жаль… Намнога звузіўся… Больш за ўсё хвалюе мяне сёння лёс самых блізкіх мне людзей…

*- Ці ёсць сёння ў Вас сябры, сяброўкі? Аб чым гутарыце пры сустрэчах?*

- Сябры і сяброўкі… У маім ужо "дапатопным" веку - гэта ўжо найбольш толькі ўспаміны з уздыхамі.

*Все ушли, что любили,*
*что ждали,*
*Утонули за дымкой печали...*

Ну, а тыя, хто з маладзейшых, яны таксама ўжо часцей ходзяць па дактарах, па бальніцах і аптэках... Што ўспамінаем, пра што гутарым? Усё ж яшчэ чытаем, таксама дзякаваць Богу, кнігі. Што-што, а бібліятэкі (уласныя!) маем мы амаль усе. Так што ўцехі - кніжнай - хопіць нам усім "на всю оставшуюся жизнь". Выпісваем жа, хто якую газету. Вось толькі наша бяздарнае беларускае тэлебачанне - вочы б яго не бачылі! - яго хто глядзіць, а хто - не.

*- Які лёс, на Вашу думку, чакае Беларусь, беларускае Слова, беларускую Мову ў гэтым XXI стагоддзі?*

- У Беларусі дзеці амаль не вучацца ў беларускіх школах. Вось ужо колькі гадоў беларускія школы скарачаюцца, зачыняюцца… Няма вучняў? Няма выкладчыкаў? У лепшых выпадках застаюцца беларускія "класы" ў школах - абсалютна з навучаннем рускамоўным. А то і зусім, як у абласным Магілёве, вучыцца ў школе (зразумела, рускамоўнай) адна ўсяго дзяўчынка! Няцяжка ўявіць сабе гэтае навучанне і самаадчуванне яе самой і яе бацькоў, якія не жадаюць "зразумець", чаму іх дзіця не мае магчымасці (права) у сваёй роднай дзяржаве вучыцца на роднай мове? У нашых універсітэтах студэнты таксама мала чуюць беларускую мову і рэдка ёю карыстаюцца. Заезджыя людзі дзівяцца: чаму ў Менску на вуліцах не пачуеш гаворкі па-беларуску? Усе гавораць на чужой мове.

А як цудоўна гучыць беларуская песня! Але наша "тэлескрынка" ды і радыё таксама нароўваць "адкормліваць" нас рускамоўнай папсою і замшэлымі шлягерамі. Што ўжо казаць пра наша "верхавенства"? (У нас же законом утверждено двуязычие? Так зачем же ещё ломать язык?). За амаль 20 гадоў свае прэзідэнцкае ўлады сам Прэзідэнт рэдкія разы выступаў перад сваім народам з прамовамі на роднай мове. Праўда, калі падумаць, Прэзідэнт жа нарадзіўся і гадаваўся ў беларускай вёсцы. Вучыўся ў беларускай школе. Але адразу ж, апынуўшыся за цяжкімі дзяржаўнымі дзвярыма, перасеў у чужыя сані.

Жыве Беларусь! Гэтыя два дарагія словы мы з аднолькавым пачуццём вялікай Надзеі паўтараем з клічнікам і без клічніка. Мы паўтараем іх з пачуццём непагаснай Веры. На святую беларускую зямлю прыйдзе новы надзейны і верны Сейбіт засяваць яе. Разумным. Добрым. Вечным.

*- Што яшчэ не напісалася, аб чым усё жыццё марылі напісаць?*

- Сёлета 25 верасня шырока і вельмі годна адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння выдатнага беларускага паэта Сяргея Грахоўскага. Сама я, на жаль, не была на гэтай імпрэзе (быў мой сын). Па тэлефоне толькі прачытала я напамяць даўнія ўжо вершы Паэта яго дачцэ Тані:

*Сцяжынка збягае з пагорка,*
*Унізе шуміць лістапад.*
*І крыўдна, і сумна, і горка,*
*Што ўжо не вярнуцца назад*
*У тое гарачае лета,*
*У водар духмяных суніц,*
*Дзе столькі гуло навальніц,*
*Дзе столькі яшчэ не дапета...*

…А мая ўласная "сцяжынка"? А мае недапетыя старонкі?

Іх не будзе.

Напэўна, таму, што на апошнюю, недапісаную маю кнігу ("Памерла Ганька…") ужо не хопіць сілы.

У нядобры дзень нядобра ўпала я (а "добра падаць" часта здараецца?) ужо каторы год не выходжу нават за дзверы ўласнай кватэры… І не пішу. Ёсць людзі, здольныя пры самых найскладанейшых абставінах заставацца дзейнымі: пісаць музыку, пісаць карціны, пісаць кнігі… Я не здольная. Без жывога жыцця… А яшчэ - чытачы. Даўнія, самыя адданыя чытачы самых першых маіх кніжак - яны ўжо адышлі… У наступнай змены цяпер ужо часцей нагода шукаць лекі, чым шукаць новае чытанне - па кнігарнях і па бібліятэках. Новае "племя младое, незнакомое"? Дык маладым жа "продкі" зусім нецікавыя! Ні як яны і чым жылі, у што верылі, што пісалі, што пакінулі. У іх свой, ужо "свой час, свой век, свая эпоха". Як, дарэчы, было гэтак і ў "продкаў". І ў продкаў продкаў. І, мусіць, так і павінна быць. Павінна? Хоць "крыўдна і сумна, і горка, што ўжо не вярнуцца назад". Але такая дыялектыка чалавечага быцця.

*Сяргей ЧЫГРЫН.*

## Памёр архітэктар Багласаў, які займаўся рэстаўрацыяй Траецкага прадмесця і аднаўленнем менскай ратушы



Вядомы архітэктар памёр на 72-м годзе жыцця.

Архітэктар-рэстаўратар Сяргей Багласаў нарадзіўся ў Магілёве, скончыў Політэхнічны інстытут па спецыяльнасці "архітэктура". Інфармацыю пра ягоную смерць пацвердзілі ў Беларускім саюзе архітэктараў.

Асноўная праца Багласава - рэстаўрацыя, рэканструкцыя, прыстасаванне і добраўпарадкаванне сталічнага Траецкага прадмесця Менску (1980-1983). Багласаў кіраваў аўтарскім калектывам.

Таксама ён распрацаваў праекты рэстаўрацыі, прыстасавання і аднаўлення гандлёвых радоў на плошчы Свабоды, менскай гарадской ратушы, гасцініцы "Еўропа", царквы Святога Духу, шматфункцыянальных комплексаў на вуліцах Няміга і Зыбіцкая. Некаторыя праекты рабіліся ў суаўтарстве. Багласаў быў таксама вядомы як аўтар архітэктурна-скульптурных кампазіцый "Войт" і "Гарадскія вагі" у Менску. Ён распрацаваў пастамент да помніка Гедыміну ў Лідзе.

***Паводле СМІ.***

## Помнік Ігару Лучанку



*Аляксандр Фінскі, Аляксандра Лучанок, Іван Міско*

На Алеі славы Усходніх могілак адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця помніка народнаму артысту Беларусі і СССР, кампазітару Ігару Лучанку. Дата была абрана невыпадкова: 6 жніўня споўнілася 83 гады з дня нараджэння знакамітага творцы, які пайшоў з жыцця ў лістападзе 2018-га.

З прамовамі, што падкрэслівалі значнасць асобы кампазітара, успамінамі пра яго выступілі міністр культуры Беларусі Анатоль Маркевіч, удава Лучанка - Аляксандра Рыгораўна, пісьменнік Уладзімір Ліпскі - аўтар грунтоўнай дакументальнай аповесці пра Лучанка "Басанож па зорках", старшыня Беларускага саюза кампазітараў Алена Атрашкевіч, заслужаны артыст Беларусі Уладзіслаў Місевіч, што быў у складзе "Песняроў" Уладзіміра Мулявіна, і інш.

Унёсак І. Лучанка ў скарбніцу нацыянальнай культуры пераацаніць немагчыма: ягоныя песні сталі сімвалам эпохі, яе пазнавальнымі знакамі.

Выява Ігара Лучанка таксама атрымалася надзвычай музычнай. Бы крылы кампазітара, застылыя ў паветры, "лётаюць" ноты яго песні "Мой родны кут", дзе ўваспеты радкі Якуба Коласа. Дый сам пастамент нагадвае абрысы раяля: гэты інструмент стаяў і ў хатнім кабінеце творцы, і ў працоўным - у Беларускім саюзе кампазітараў, які Лучанок узначальваў цягам 38 гадоў, з 1980-га і да сваёй смерці.

Музычным было і адкрыццё помніка: творы кампазітара выканалі Харавы ансамбль Concertino (мастацкі кіраўнік - Аляксей Снітко), што існуе пры Беларускім саюзе кампазітараў, саліст Маладзёжнага тэатра эстрады Аляксандр Саванец...

***Паводле Надзеі БУНЦЭВІЧ,***
*"Культура".*

## Беларускі палітык Янка Чарапук-Змагар

***Да 125-годдзя з дня нараджэння беларускага палітыка Янкі Чарапука-Змагара (1896-1957)***



У лістападзе 1997 года ў Сакольскім асяродку культуры Беларускім гістарычным таварыствам была наладжана выдатная навуковая канферэнцыя на тэму "Беларусы Сакольшчыны". На ёй навукоўцы і гісторыкі выступілі з цікавымі дакладамі, прысвечанымі знакамітым людзям Сакольшчыны. На той канферэнцыі я не прысутнічаў, але ведаю, што Алег Латышонак на ёй выступіў з дакладам пра беларускага палітычнага дзеяча Янку Чарапука, якому некалі Іван Луцкевіч даў мянушку "Змагар". Не ведаю я таксама, ці друкаваў дзе свой даклад Алег Латышонак, але сёння хачу яшчэ раз згадаць пра палітыка з Сакольшчыны (Беласточчына), пра якога варта нашым гісторыкам пісаць часцей, бо ён заслугоўвае нашай шчырай памяці і пашаны. Ды і сёлета 12 жніўня Янку Чарапуку-Змагару споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння.

Янка Чарапук нарадзіўся ў 1896 годзе ў мястэчку Новы Двор на Сакольшчыне. Спачатку вучыўся ў мясцовым гарадскім вучылішчы, а пасля скончыў гімназію ў Гародні і ў 1914 годзе паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт на юрыдычны факультэт.

Падчас вучобы Янка Чарапук пазнаёміўся з украінскімі нацыянальнымі дзеячамі, якія яго і ўцягнулі ў палітыку. У Пецярбургу нашага земляка ўкраінцы прызначаюць сакратаром Пецярбургскай місіі Цэнтральнай Украінскай Рады. А пазней ён стане супрацоўнікам Міністэрства замежных спраў Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР) і пераедзе ў Кіеў.

Тым не менш, беларуса з Сакольшчыны больш цікавілі і хвалявалі родныя справы Бацькаўшчыны. Таму ў Пецярбурзе Янка Чарапук стварае грамадскую культурна-асветную арганізацыю "Вольныя беларусы", а ў Кіеве становіцца сябрам Беларускай Рады на Украіне. Там, у Кіеве, ён арганізоўвае Беларускую партыю незалежных рэвалюцыянераў.

У 1918 годзе Янка Чарапук вяртаецца на радзіму і актыўна далучаецца да спраў Беларускай Народнай Рэспублікі. Ён удзельнічае ў Беларускім з'ездзе Віленшчыны і Гарадзеншчыны, яго прызначаюць сакратаром беларускай рады гэтых рэгіёнаў. Янка Чарапук шмат піша, друкуецца ў гарадзенскіх газетах "Беларус", "Родны край", у "Нашай думцы". Як падае "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі" (Мн., 2003, т. 6, с.138), Янка Чарапук з канца 1919 года едзе ў Рыгу, дзе працуе сакратаром Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі, з'яўляецца сябрам беларускай калоніі ў Латвіі, дыпламатычным кур'ерам пры ўрадзе БНР на чале з Антонам Луцкевічам. З 1920 года малады палітык узначальвае дэлегацыю Беларускай Народнай Рэспублікі на міждзяржаўнай канферэнцыі балтыйскіх дзяржаў, удзельнічае ў Першай Усебеларускай канферэнцыі ў Празе, прызначаецца сакратаром Дыпламатычнай місіі БНР у Коўні.

У 1919 годзе ў Амерыку ў пошуках працы едзе з Беласточчыны бацька Янкі Чарапука - Антон Чарапук. Там ён, як піша Вітаўт Кіпель у сваёй кнізе "Беларусы ў ЗША" (Мн., 1993), разам з В. Трафімовіч і П. Чопка склалі першыя арганізацыйныя сходы беларусаў у Чыкага. У 1920 годзе была заснавана новая беларуская арганізацыя, якая называлася Беларускі нацыянальны камітэт. Мэта гэтай арганізацыя была адна - гуртаваць беларусаў Чыкага. Дарэчы, з 1892 да 1913 года ў Чыкага прыехалі 95 тысяч беларусаў. На той час гэта быў самы беларускі горад у ЗША. Сюды ў 1922 годзе прыязджае і Янка Чарапук. Прыезд яго ў Амерыку не быў выпадковы. Па-першае, тут ужо трохі абжыўся яго бацька, па-другое, яшчэ 18 лістапада 1919 года Янка Чарапук пісаў Антону Луцкевічу, выказваючы свае погляды на знешнепалітычную дзейнасць Беларускай Народнай Рэспублікі: *"Зараз жэ пашлецэ дзве місыі ў Англію, асабліва зноў у Амэрыку... Пры гэтым, што датычыцца Амэрыкі та я сам падняўся, каб быць Сэкратаром нашэй Місыі. У мяне там ёсьць вельмі многа знаёмых, адзін наш беларус Сукрановіч, з якім я і цяпер маю зносіны..."* ("Запісы-21". Нью Ёрк, 1994, с.126).

У траўні 1922 года Янка Чарапук назаўсёды развітваецца з Радзімай. Перад ад'ездам з парахода "Латвія" ён напісаў паштоўку Тамашу Грыбу: *"Даражэнькі! Шлю мае сардэчныя прывітаньні усім сябрам Грамады. Сёньня моцна помню наш дэвіз: змагаймася - зможам. Цалую ўсіх. Ваш Я. Чарапук".*

Ці добра Янку Чарапуку напачатку было ў Амерыцы? Аб гэтым ён піша сам у пісьме да Вацлава Ластоўскага ў Коўню 9 ліпеня 1923 года: *"Цяпер падзялюся з Вамі тым, што ёсьць у мяне тут. Прыезд мой у Амэрыку адбыўся пры самых цяжкіх варунках... Маё становішча ў Амэрыцы было адным з самых страшэнных з'явішч у маём маладом жыцьцю..."* ("Запісы-21", с. 134). Тым не менш, Янка Чарапук-Змагар не скарыўся, рук не апусціў.

Найперш ён пачаў пашыраць кола сяброў Беларускага нацыянальнага камітэта і падаў ідэю скліканне масавага з'езда беларусаў Чыкага. На гэтую ідэю Янкі Чарапука адгукнуўся ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі і паслаў у ЗША на дапамогу Чарапуку яшчэ аднаго лідара - Язэпа Варонку, дарэчы, таксама родам з Сакольшчыны. Па словах Вітаўта Кіпеля, гэтае масавае мерапрыемства сабрала беларусаў не толькі з Чыкага, але і з іншых штатаў ЗША. У выніку працы з'езда была створана новая арганізацыя - Беларуска-Амерыканская Нацыянальная Асацыяцыя. Кіраўніком яе быў абраны Язэп Варонка, а Янка Чарапук - старшынём рэвізійнай камісіі.

Арганізацыйныя здольнасці Янкі Чарапука і ўдзел у з'ездзе Язэпа Варонкі зрабілі тады на прысутных вельмі канструктыўны ўплыў і заахвоцілі ўсіх да далейшай дзейнасці. А абранае з'ездам кіраўніцтва і многія актывісты распачалі шырокую беларускую дзейнасць у Злучаных Штатах, хаця напярэдадзе ўсіх чакала шмат выпрабаванняў.

Жывучы ў Амерыцы, Янка Чарапук-Змагар быў яшчэ адным з арганізатараў Беларуска-Амерыканскага грамадскага задзіночання, а таксама Беларуска-Амерыканскай нацыянальнай рады, якая ставіла за мэту дабрачынную дапамогу ахвярам Другой сусветнай вайны. Наогул, наш эмігрант усё жыццё дапамагаў сваім землякам у Беларусі. Ён збіраў грошы і ахвяраваў іх беларускаму студэнцтву і школьніцтву ў Заходняй Беларусі, моцна дапамагаў беларускім арганізацыям у Беларусі і ў Чэхаславакіі. Хаця з 1936 года аж да пенсіі ён працаваў на дрэваапрацоўчай кампаніі "Chicago and Riverdale Lumber Company", якая гарантавала толькі пэўны мінімум на жыццё і не больш.

У 1952 годзе на канадыйскім баку вадаспада Ніягара адбылася першая сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Яна была прысвечана Янку Купалу. На гэтай сустрэчы Янка Чарапук-Змагар, як прадстаўнік Урада БНР, выступіў з прамовай. І такіх выступленняў і прамоў былі сотні.

Яшчэ ў 1881 годзе ў Амерыцы была заснавана арганізацыя "Рыцары Калумба", якая з гадамі стала міжнароднай. Янка Чарапук-Змагар уваходзіў у гэтую арганізацыю і меў яе найвышэйшую 4-ю рыцарскую ступень, ступень Патрыятызму.

16 лістапада 1957 года нашага земляка не стала. Беларускі каталіцкі часопіс "Znic" (1957, № 43, с. 5) пісаў: *"На святой Імшы і на праводзінах Янкі Чарапука-Змагара была амаль уся беларуская інтэлігенцыя з Чыкага... А на жалобнай вячэры чула памянуў яго генерал Дзямідаў ды іншыя".*

***Сяргей ЧЫГРЫН.***

# Юбілей патрыярха беларускай дыяспары ў ЗША

95-тыя ўгодкі з дня нарадзінаў адзначыў вядомы беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык і палітолаг Янка Запруднік.

Я. Запруднік, сапраўднае імя - Сяргей Вільчыцкі - нарадзіўся 9 жніўня 1926; выступаў у друку пад псеўданімамі Сяргей Ясень Аркадзь Будзіч, Арсень Загорны, Рыгор (Ягор) Ліцьвін, Т. Смаленскі, М. Беластоцкі.

Сяргей Вільчыцкі нарадзіўся ў мястэчку Мір на Карэліччыне, калі гэтая частка Беларусі была пад уладай Польшчы. Яго бацькі, настаўнікі па адукацыі, гаспадарылі на зямлі. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР сям'я Вільчыцкіх падлягала высылцы ў Сібір, але гэтаму перашкодзіў напад нацысцкай Германіі на СССР.



У гады нямецкай акупацыі Сяргей Вільчыцкі закончыў у Міры пачатковую школу (1942), затым у Баранавічах - прагімназію і тры курсы (з чатырох) гандлёвай школы (1943-44). Ён належаў да Саюза беларускай моладзі. Набліжэнне Савецкай арміі да Баранавіч вымусіла Сяргея Вільчыцкага да адыходу ў Германію: ён запісаўся ў дапаможную службу нямецкай авіяцыі (Luftwaffehelfer). За месяц да капітуляцыі Германіі быў пераведзены ў дывізію "Беларусь" (пад камандаваннем Францішка Кушаля), якая пад канец красавіка 1945 перайшла ў Баварыі да амерыканцаў. З 1945 ён быў скаўтмайстрам "Згуртавання Беларускіх Скаўтаў на чужыне". Потым паступіў на медыцынскі факультэт Цюбінгенскага ўніверсітэта. Да траўня 1946 знаходзіўся ў лагеры ваеннапалонных у амерыканскай зоне акупацыі.

Сяргей Вільчыцкі пасля палону прыехаў у беларускі лагер для перамешчаных асоб у Рэгенсбургу, які ў ліпені 1946 быў пераведзены ў Міхельсдорф. Як былому ваеннапалоннаму атрымаць статус перамешчанай асобы яму было немагчыма, таму давялося "згубіць" дакументы, з якімі яго адпусцілі з амерыканскага палону, і ўзяць прозвішча Яна Запрудніка з Вільні, што па нейкай прычыне пакінуў лагер. З гэтага часу Сяргей Вільчыцкі стаў Янкам Запруднікам, захаваўшы гэта прозвішча на ўсё жыццё.

У лагеры дзейнічала Беларуская гімназія імя Янкі Купалы, якую Янка Запруднік скончыў у 1947. У студзені 1948 ён выправіўся ў Вялікабрытанію, дзе працаваў на шахтах цэнтральнай Англіі. Удзельнічаў у грамадска-культурнай нацыянальнай працы, выданні часопіса беларускай моладзі "Наперад!", далучыўся да дзейнасці Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі.

Неўзабаве Янка Запруднік атрымаў стыпендыю з Ватыкана і, дзякуючы гэтаму, у 1950-54 гг набываў вышэйшую адукацыю на гістарычным факультэце Лювенскага ўніверсітэта (Бельгія). Навучанне сумяшчаў з удзелам у грамадскай, культурна-асветніцкай працы беларускай грамады. Быў адным з арганізатараў беларускага моладзевага руху, у 1953-54 навучальным годзе быў старшынём Беларускага студэнцкага згуртавання ў Лювене, стаў адным з ініцыятараў аднаўлення часопіса "Наперад!" і яго аўтарам. За гады навучання ён наведаў шэраг краін Заходняй Еўропы.

Пасля заканчэння ўніверсітэта з адзнакай Янка Запруднік прыняў прапанову Амерыканскага камітэта вызвалення ад бальшавізму (ад 1956 - Амерыканскі камітэт вызвалення) і ў верасні 1954 пачаў працаваць журналістам беларускай секцыі радыёстанцыі "Вызваленне" ў Мюнхене, у ліку беларускіх замежных вучоных уключыўся ў працу Інстытута вывучэння СССР.




У 1957 Янка Запруднік пераехаў у ЗША, дзе працягваў працу ў Нью-Ёрку да 1991 на той жа радыёстанцыі (ад 1964 - "Свабода"). У 1969 г. у Нью-Ёркскім універсітэце абараніў дысертацыю і атрымаў ступень доктара гістарычных навук. Выкладаў гісторыю Расіі і СССР у Квінскім каледжы Нью-Ёрскага гарадскога ўніверсітэта (1970-1975), гісторыю і сучасную палітыку Беларусі ў Калумбійскім універсітэце (1994).

Навуковая дзейнасць і публіцыстыка Янкі Запрудніка прысвечана гісторыі Беларусі, жыццю беларускага народа.

Яго высновы адрозніваліся ад канцэпцыі гісторыі беларускай дзяржаўнасці, якая існавала ў БССР. У працах "Савецкія канцэпцыі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага" ("Запісы", 1974, кн. 12) і "Дзяржаўнасць Беларусі ў дасавецкую пару" ("Запісы", 1977, кн. 15) аспрэчваецца сцвярджэнне савецкіх гісторыкаў аб тым, што беларускі народ упершыню прыступіў да стварэння сваёй дзяржавы толькі пры савецкай уладзе.

Янка Запруднік падкрэсліваў, што Першы Усебеларускі з'езд - важная веха дзяржаўнага будаўніцтва, разглядаў абвяшчэнне БНР як акт аднаўлення беларускай дзяржаўнасці, паказваў уплыў беларускага нацыянальнага руху на ўтварэнне БССР, якая ўзнікла ў процівагу БНР. Я. Запруднік крытыкаваў нацыянальную палітыку КПСС і КПБ за ігнараванне нацыянальных інтарэсаў, фармальнасць суверэнітэту БССР, абсалютную залежнасць ад партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва СССР. Як гісторык Янка Запруднік выступіў аўтарам шэрагу кніг: дакументальнай аповесці "Дваннацатка", агляду "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях" (Belarus: At a Crossroads in History, 1993). - Мн., 1996, "Гістарычнага слоўніка Беларусі" (Historical Dictionary of Belarus, 1998). Ён таксама выдаў кнігі: "Беларускія фэстывалі й выстаўкі. Палітычная інфармацыя мовай мастацтва (1948-2011)" - пра беларускія фестывалі ў ЗША, якія рэгулярна праводзяцца, "Па гарачых слядах мінуўшчыны. Лісты 1952-1959 гг.", "Кантакты", заснаваныя на лістах, што пісалі беларусы з метраполіі Янку Запрудніку, "Берагу майго зарніцы".

Янка Запруднік быў узнагароджаны медалём да 100-годдзя БНР Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сёлета юбілей Янкі Запрудніка ўрачыста адсвяткавала беларуская грамада ў Саўт-Рыверы. На свята сабраліся розныя пакаленні беларускай эміграцыі ЗША.

*Падрыхтавала Э. Дзвінская.*

*Навіны Германії*

# Welt: перадвыбарная барацьба ў Германіі ўступіла ў "гарачую фазу"



*Кандыдаты на пост канцлера ФРГ: Олаф Шольц (злева), Армін Лашэт и Анналена Бербок*

**Кароткая спасылка**

У Германіі пачалася "гарачая фаза" перадвыбарнай барацьбы, паведамляе Welt. Усе кандыдаты ў канцлеры актыўна змагаюцца за галасы выбарнікаў. У апытаннях цяпер лідзіруе сацыял-дэмакрат **Олаф Шольц** (59 адсоткаў), за ім стаіць член партыі ХДС **Армін Лашэт** (28 адсоткаў), а замыкае тройку **Анналена Бербок** ад зялёных. Гонка за крэсла кіраўніка дзяржавы падоўжыцца яшчэ шэсць тыдняў, так што пакуль невядома, хто стане яе пераможцам, адзначае нямецкі тэлеканал.

Армін Лашэт вядзе кампанію ў звыклай для яго стыхіі. Перадвыбарная барацьба на вуліцы. Прамы кантакт з людзьмі. У гэтым з ім ніхто не можа параўнацца. Нават сустрэча з былым міністрам па справах сям'і Крысцінай Шродар здаецца выпадковай. Магчыма, гэта і так. Грамадзяне заклікаюць яго цвярдзей крытыкаваць канкурэнта ад СДПГ і міністра фінансаў Олафа Шольца за скандал вакол Wirecard. Гэта сапраўды не "перадвыбарная барацьба ў спальным вагоне", ёрнічаеХСС. Лашэт разлічвае на згуртаванасць.

**АРМІН ЛАШЭТ**:

- ХСС - гэта асобная партыя. Яна ўносіць уласныя пункты ў праграму. Але калі ХДС і ХСС дзейнічаюць згуртавана, у нас добра атрымліваецца кіраваць Германіяй. За гэта мы і выступаем.

Узорам адзінства цяпер служыць СДПГ, якая запусціла сваю перадвыбарную кампанію ў Бохуме. Усярэдзіне партыі не гучыць ніякай крытыкі ў адрас кандыдата, у тым ліку і з боку яе левага крыла. Для СДПГ такое неўласціва, але гэта прыносіць поспех.

У апытанні з нагоды таго, каму б вы даручылі пост канцлера, 59 адсоткаў грамадзян называюць Олафа Шольца, 28 адсоткаў - Арміна Лашэта і 23 адсоткі - Анналену Бербок. Кандыдат у канцлеры ад СДПГ сам разгубіўся ад нядаўняга поспеху ў апытаннях.

**ОЛАФ ШОЛЬЦ:**

- Рост падтрымкі СДПГ характэрны. Хай так і працягваецца, раз людзі жадаюць, каб я стаў канцлерам Федэратыўнай Рэспублікі Германії.

Кандыдат у канцлеры ад зялёных Анналена Бербок змагаецца за галасы выбарнікаў у Ніжняй Саксоніі. Адна з яе тэм - гэта, вядома ж, глабальнае пацяпленне. Па яе словах, пра яго ўсе гавораць, але толькі зялёныя гатовыя з ім рэальна змагацца.

**АННАЛЕНА БЕРБОК:**

- Абарона клімату - гэта задача для ўсіх партый у нашай краіне, але для гэтага канешне неабходна памяняць нямецкі ўрад.

Гарачая фаза перадвыбарнай гонкі пачалася. Праз шэсць тыдняў яна скончыцца. Пакуль што невядома, хто стане яе пераможцам.

*Паводле СМІ.*

# Гарадзенскае абласное свята паэзіі

28 верасня (субота) у 11.00 у в. Зачэпічы Дзятлаўскага раёна пройдзе Гарадзенскае абласное свята паэзіі.

Свята арганізуе Гарадзенскае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў пры падтрымцы Дзятлаўскага райвыканкама.

Запрашаем гасцей з усіх валасцей.

Спадзяёмся, што будзе цікава.





*Зоф'я Кавалеўская*

# Гісторыя Лідскага паўстання: успаміны пра Людвіка Нарбута*

(*Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.*)

Апека сям'і атачыла маладзёна і іншых пацярпелых і расцярушаных па шаўраўскіх лясах паўстанцаў.

Двор падвяргаўся бясконцымператрусам і праследу...

Малады рыцар, нягледзячы на слабыя сілы, надалей рваўся да барацьбы, і як толькі з'явіўся Парадоўскі, адразу ж далучыўся да яго невялікага атрада. Нястача сілы не дазволіла Баляславу суправаджаць атрад да Гарадзенскай губерні, куды пасля нядоўгага побыту ў Лідскім павеце, накіраваў сваіх паўстанцаў "Астрога".

У гэты час кузіна Нарбутаў, пані Альшэўская, каб яму было зручней пераехаць за мяжу, вывезла Баляслава ў Друскенікі. Праслед у Краі нарастаў. Каб палепшыць здароўе, па вечарах Баляслаў веславаў на Нёмане. Удзень гэта было немагчыма, бо яму прыходзілася старанна хавацца.

Падчас аднаго з такіх падарожжаў Баляслава злавілі, збілі, адабралі грошы і кінулі ў вязніцу. Як аказалася: нейкі дапытлівы паручнік (маскаль), прозвішча якога сцерлася з памяці, здаўна пільнаваў Баляслава Нарбута, і, знайшоўшы яго на рацэ, абышоўся з тыгрынай жорсткасцю. Звязанага кінуў яго ў нейкую халупу, дзе той праляжаў, як куль, цэлую ноч. Назаўтра галоднага і слабага, Баляслава пагналі ў Гародню.

Там у турме, у цеснай перапоўненай камеры, прасякнутай выдыхамі і дымам тытуню, аслабелы маладзён страціў прытомнасць. Калегі па няшчасці кінуліся яму на дапамогу, паднеслі да акенца, каб змог дыхнуць свежым паветрам. Фатальныя ўмовы ў вязніцы забілі б вымучанага Баляслава, каб яго не ўратаваў шчаслівы выпадак.

Князь Баратынскі наведваў турму ў Гародні. Увайшоўшы ў камеру, дзе сядзеў Баляслаў Нарбут, адразу адхіліўся назад да парогу, збіты страшным паветрам з камеры.

Загадаў прывесці да яго Баляслава, пра знаходжанне якога ў турме ведаў.

Убачыўшы зблялелага вязня, слабога ў нагах, яго падтрымоўвалі пад рукі жаўнеры, князь Баратынскі падняўся і падсунуў яму крэсла. Сеў пры ім і пачаў распытваць пра ўсё, прасіў не таіцца і гаварыць праўду.

Баляслаў шчыра прызнаўся, што быў ад'ютантам у свайго брата Людвіка, а пасля яго смерці хацеў перапраўляцца за мяжу і таму меў пры сабе дастатковую суму грошай, якія адабраў афіцэр пры яго арыште. Расказаў таксама пра брутальнасць затрымання, пра цесную камеру, дзе ўжо месціліся дваццаць другіх вязняў. Вынікам гэтай размовы была значная палёгка для ўсіх арыштаваных.

Князь Баратынскі шчыра заняўся лёсам Баляслава, забяспечыў даволі знősныя ўмовы існавання і ўратаваў ад пятлі, якая грэзіла хлопцу.

Баляслаў Нарбут быў асуджаны на выгнанне ў Краснаярск.

На дэпартацыю была асуджана і пані Альшэўская, якая апекавалася ім у Друскеніках.

У Маскву Нарбута прывезлі чыгункай, далейшую дарогу, як і ўсе ссыльныя, ён павінен быў прайсці пешшу па этапе. У Маскве партыя ссыльных, сярод якіх быў Баляслаў, затрымалася даўжэй. І гэта дало магчымасць атрымаць спачуванне ад дачкі турэмнага наглядчыка, якая часта наведвала "бедных палякаў", прысылала ім бялізну, віно, белы хлеб і іншыя рэчы. Урэшце паненка так прывязалася да маладога вязня, што хацела ехаць з ім у Сібір. Па дарозе каля Табольска Баляслаў напаткаў афіцэра, які яго арыштаваў. Аказалася, што ён быў асуджаны князем Баратынскім, паніжаны ў званні і таксама высланы на Сібір.

Цяжкая дарога, маральная і фізічная стома зусім зруйнавалі здароўе Баляслава.

У Краснаярску ён не мог заняцца аніякай працай, бо пухлі рукі.

І хаця яму і вярнулі грошы, адабраныя пры арышце, запас іх вычарпаўся, а трэба было жыць. Нарбут заняўся дробным гандлем, які даваў такі-сякі даход для жыцця.

Графіня Пшаздзецкая пры пасярэдніцтве князя Арлова, расійскага амбасадара ў Парыжы, атрымала для Баляслава дазвол на вяртанне ў Край. Баляслаў вярнуўся ў цудам не канфіскаваныя Шаўры. Там ажаніўся са сваёй кузінай Габрыэляй Нарбут, дачкой Валерыя Нарбута, уладальніка Капыля.

Памёр ад сухотаў у 1889 годзе, пакінуўшы двух сыноў: Зыгмунта ды Тадэвуша і адну дачку.

### Раздзел XVI

*Мураўёў. Узнаўленне закрытых спраў. Новыя арышты. Прысуды і пакаранні смерцю. Ксёндз Ішора. Першая ахвяра. Расстрэл ксяндза Фалькоўскага ў Лідзе. Смерць Альберта Лясковіча і ксяндза Зямацкага ў Вільні. Выгнанне. Бальтазар Калясінскі. Падзеі ў лідскім касцёле. Вынішчэнне вёсак і засценкаў.*

14 траўня 1863 года ў Вільню прыехаў Мураўёў. Аддзел Віленскага Народнага Урада яшчэ нібыта дзейнічаў.

Першым быў арыштаваным Гажыц, паступова, па-чарзе вылавілі астатніх членаў арганізацыі.

Новы "вялікадзяржаўца" Літвы некалькі дзён у цішы прыглядаўся да сітуацыі.

Перад яго палацам прайшла нейкая легкадумная, але ўжо апошняя працэсія са спевам народнага гімна. Слухаў яго з балкона, але не даваў каманды на разгон. І трошкі пазней са знакамітай лютасцю прыступіў да работы.

Пачаўся страшны праслед, следствы, прысуды і смяротныя пакаранні. Падымаліся дакументы ўжо скончаных спраў, і следства па іх зноў аднаўлялася. Падлягалі арышту раней вызваленыя ад пакарання, у Вільню вярталі з Расіі асуджаных, каб пакараць больш сурова.

Першай ахвярай Мураўёва ў Вільні 26 траўня стаўся ксёндз Станіслаў Ішора, пробашч з мястэчка Жалудок, асуджаны на смерць за зачытванне ў касцёле Маніфеста Народнага Урада.

Расстрэл ксяндза зрабіў на жыхароў Вільні вельмі прыгнятальнае ўражанне.

Яшчэ больш цяжкае ўражанне мела правінцыйная Ліда, калі 10 чэрвеня каля 10-й гадзіны раніцы смерць ад кулі прыняў ксёндз Адам Фалькоўскі, пробашч з Ішчалны, які зачытаў з амбона Маніфест. Ён нават не допускаў за гэта такога страшнага пакарання.

Калі ксяндза пад ахоўвай як вялікага злачынцу прывезлі ў Ліду, ён яшчэ не разумеў, што можа пагражаць смерць. Упэўніўся ў гэтым толькі тады, калі ў турму ў апошнюю хвіліну прыйшоў мясцовы пробашч ксёндз Свірскі, каб спавядаць Фалькоўскага перад смерцю.

З каменным спакоем каплан шасцідзесяці з некалькім гадоў ішоў да месца пакарання на выгане за горадам, дзе пасвіліся яўрэйскія козы. Ішоў сам, нягледзячы на значную адлегласць, і толькі раз у яго падкасіліся калені. Камандаваў атрадам жаўнераў Перасвет-Солтан, афіцэр прапанаваў вязню сесці на вазок, які ехаў за імі. Асуджаны адмовіўся. Хацеў як Хрыстос данесці свой крыж да канца. Збляднелымі вуснамі шаптаў пацеры ... а калі голас яму здраджваў і ламаўся, прадоўжыць малітву дапамагаў ксёндз Свірскі, які суправаджаў Фалькоўскага.

Каля слупа быў ужо выкапаны дол. Тлум з простага народу атачаў месца пакарання[50].

Ксёндз Фалькоўскі штосьці прамовіў каля слупа, але барабаны заглушылі яго словы...

Прагучала каманда і выбухнуў залп.

Цела, якое яшчэ торгалася, скацілася ў дол.

У горадзе зараз жа пачалі біць касцельныя званы, і ва ўсіх касцёлах пачалася жалобная імша.

Магілу, насыпаную на месцы пакарання, казакі зруйнавалі з зямлёй капытамі коней.

Жаўнеры штыкамі разганялі тлум людзей, якія ціснуліся да магілы, каб узяць пясок, прасякнуты крывёй расстралянага ксяндза.

Ліда віравала болем і жахам.

Зноў былі арыштаваны Бальтазар Калясінскі, Юльян Лясковіч, Зыгмунд Гадачэўскі, Вільгельм Грабоўскі, Яраслаў Табенскі, Браніслаў Нарбут. Пачалося новае следства. Такі ж лёс напаткаў і Альберта Лясковіча, які знаходзіўся пад арыштам і быў асуджаны на два гады арыштанцкіх рот.

Гэты вырак яшчэ не быў падпісаны Назімавым. Мураўёў скарыстаўся з гэтага і, шукаючы новую ахвяру, прысудзіў амаль нявіннага Лясковіча да смерці. Гэтае самавольства "вялікадзяржаўца" абурыла ўсе пласты грамадства, бо акрамя легкадумнай гаварлівасці за Альбертам Лясковічам не было болей ніякага палітычнага злачынства.

Другі раз Лідскі павет гнуўся пад цяжкай рукой Мураўёва. Першы раз - калі ён быў губернатарам у Гародні, а Лідскі павет уваходзіў у склад Гарадзенскай губерні, і другі - калі сатрап запанаваў над усёй Літвой. Страшэнны боль раздзіраў сэрцы лідзян, бо дзве новыя ахвяры з іх зямлі палі ў Вільні.

На Лукішках у самым росквіце быў расстраляны сын землеўладальніка Альберт Лясковіч і ксёндз Зямацкі, пробашч з Вавёркі, асуджаны за чытанне Народнага Маніфеста перад людзьмі.

Паўторна пад новым следствам у турме апынуліся Б. Калясінскі, Ю. Лясковіч, З. Гадачэўскі, В. Грабоўскі і Бр. Нарбут, потым іх дэпартавалі ў глыб Расіі. Табенскі памёр у турме падчас следства. Адначасова ў асуджаных канфіскоўвалі маёмасць, з чаго, як заўсёды і паўсюдна, карысталіся яўрэі.

Браніслаў Нарбут, вярнуўшыся праз некалькі гадоў выгнання, страціў сваю спадчынную маёмасць Нікадзімава. Яму забаранялася жыць у Літве, і рэшту жыцця правёў, туляючыся ў пошуках працы па розных месцах. Дзяржаўныя пасады для мясцовых былі забаронены, а прыватным бізнесам заняцца было надзвычай цяжка.

Многія з эмігрантаў, для якіх жыццё ў Айчыне было забаронена, паміралі з голаду ў Варшаве, Рызе і іншых гарадах, не маючы сродкаў да існавання і працы. Былі і тыя, хто не знаходзячы хлеба на Айчыне сярод сваіх, паўторна вяртаўся ў Расію. Тагачасныя ўмовы жыцця нараджалі часта страшна трагічныя сітуацыі.

З народных актывістаў, якія разам з Бальтазарам Калясінскім працавалі над свядомасцю людзей і займаліся іх арганізацыяй падчас перад паўстаннем быў і старшыня (войт) Кохан з Дакудаўскай гміны, ён здолеў пазбегнуць праследу. У той час, як другі старшыня, Марцін Якубоўскі з Тарноўскай гміны, быў асуджаны з-за занадта шчырага прызнання Кашыца.

У Якубоўскага захоўваліся розныя дакументы, зброя і грошы. Аднак ён меў талент, узгадніўшы ўсё з калегамі, зручна ўхіліцца ад падазрэнняў, бо меў неабмежаваны ўплыў на людзей. Калі паліцыя прыбыла для арышту Якубоўскага, ён не страціў розум і здолеў спаліць усе дакументы, аднак схаваць зброю яму не хапіла часу. Пад час следства не здрадзіў і нікога не выдаў. З усёй сям'ёй быў высланы ў Табольскую губерню, дзе ў выгнанні і памёр у 1873 годзе. Ледзь заплюшчыў вочы, як прыйшоў дазвол на вяртанне ў край. Сям'я сумавала па Айчыне і скарысталася з гэтага дазволу. Сыны памерлага Якубоўскага - Юзаф і Ігнат былі абавязаны пісьмова пацвердзіць, што ніколі не будуць мець прэтэнзій да спадчыннай зямлі бацькі, якая была адабрана за ўдзел у паўстанні.

Маладых Якубоўскіх як леснікоў прыняла ахоўваць свае лясы пані Красіцкая і, маючы жаданне хоць неяк кампенсаваць нанесеную ім крыўду, падаравала 30 моргаў зямлі.

Бальтазар Калясінскі праз шмат гадоў ссылкі, атрымаў права вярнуцца з умовай пражывання ў Варшаве. Едучы праз Пскоў, выпадкова сустрэўся з Жамчужнікавым, тагачасным пскоўскім саноўнікам, які ў часы, калі Калясінскі займаў даволі значную пасаду ў Арэнбургскіх стэпах, быў дробным клеркам і яго падначаленым. Жамчужнікаў захаваў да Бальтазара добрыя пачуцці, і, калі даведаўся, што вяртанне ў Варшаву не радуе Калясінскага, прапанаваў яму даволі добрую пасаду ў Пскове, а калі быў прызначаны на пасаду губернатара Вільні[51], зрабіў магчымым вяртанне Бальтазара ў Ліду. Дзякуючы гэтаму, двойчы ссыльны здолеў нарэшце ўдыхнуць паветра радзімы і мець магчымасць злажыць свае косці ў зямлі бацькоўай.

Аднак сямейныя адносіны Калясінскага праз усе нягоды былі парушаны. Сваё жыццё ён скончыў у самоце. З жонкай амаль не сустракаўся. Меў адну дачку, якая выйшла замуж за Нарымскага, і адзіную ўнучку, у замустве - спадарыню Умястоўскую. Бальтазар Калясінскі памёр у Вільні, дзе пасля жыццёвых прац спачыў на Бернардынскіх могілках.

Гэта быў адзін з выбітных людзей свайго часу. Чалавек ідэі і глыбокага патрыятычнага духу.

(*Працяг у наступным нумары.*)

* Zofja Kowalewska. Dzieje powstania lidzkiego: wspomnienie o Ludwiku Narbucie. Wilno, 1934. Зоф'я Кавалеўская. Гісторыя Лідскага паўстання: успаміны пра Людвіка Нарбута. Вільня. 1934 г. Перадрук з "Дзённіка Віленскага". Пераклад і каментары Галіны Лаўрэш. Рэдагаванне і каментары Леаніда Лаўрэша.

[50] Адам Фалькоўскі нарадзіўся ў 1812 г., то бок у 1863 г. меў каля 50 гадоў - *заўвага перакладчыцы.*

[51] Жамчужнікаў А.М. ніколі не быў віленскім губернатарам. Аднак ён стаў пскоўскім віца-губернатарам і, верагодна, маючы гэтую пасаду, дапамог Калясінскаму - *Л. Л.*

# 50 гадоў таму назад я зрабіў першы крок у якасці самадзейнага артыста

У тыя часы, прыкладна на мяжы 60-70 гадоў, сугучна з новай навамоднай хваляй па гарадскіх задворках загучалі куплеты пад славутыя "тры гітарныя акорды". Адпаведна гітара становіцца ўжо не проста музычным інструментам. Яна набывае нейкі своеасаблівы модны брэнд. Па ўсёй дзяржаве вельмі хутка расце колькасць вакальна-інстументальных ансамбляў, дзе галоўным музычным інструментам з'яўляецца электрагітара. Вялікую папулярнасць набываюць вакальна-інструментальныя ансамблі "Песняры", "Верасы", "Сябры". Аснову рэпертуару гэтых славутых калектываў складаюць музычныя творы на вершы менавіта беларускі паэтаў. Дзякуючы гэтаму, беларуская мова набывае "другое дыханне" і папулярнасць.

Быць музыкантам-гітарыстам становіцца вельмі прэстыжна, яны папулярныя, іх абавязкова ведаюць у моладзевым асяродку. Кожны юнак, каб адпавядаць адпаведнаму ўзроўню ўсеагульнага захаплення павінен быў вельмі добра ведаць папулярныя на той час музычныя калектывы, разбірацца, дзе бас-гітара, а дзе сола-гітара і гэтак далей.





*Грудзіна - студэнт БСГА*



*Аркестр народных інструментаў БСГА*



*Аркестр мехфака 1972-1977 гг.*

У пачатку 60-х гадоў у горад Шклоў быў размеркаваны выкладчыкам у музычную школу Віталь Бабчанка. Віталь Аляксеевіч, як апантаны музыкай чалавек, у адпаведнасці з духам таго часу, стварае эстрадны музычны калектыў пры клубе "Чырвоны Кастрычнік" папяровай фабрыкі "Спартак". Клуб "Чырвоны Кастрычнік" арганізоўвае рэгулярныя танцавальныя вечарыны, дзе гучаць сучасныя музычныя творы. Невялікі калектыў хутка становіцца папулярным у Шклове. Амаль у кожным гарадскім культурніцкім мерапрыемстве абавязкова прымае ўдзел навамодны ансамбль з бліскучымі гітарамі і элекрамузычным абсталяваннем.

У 1971-1972 гадах у складзе музыкантаў-гітарыстаў калектыва быў і аўтар гэтых радкоў. Добра памятаю, з якім вялікім імпэнтам праводзіліся рэпетыцыі, як усе ўдзельнікі хваляваліся перад кожным выступленнем. Безумоўна, галоўным завадатарам быў менавіта яго кіраўнік. Віталь Аляксеевіч пісаў музыку, рабіў аранжыроўкі, вучыў нас музычнай грамаце і вельмі строга патрабаваў ад нас дасканалага выканання партытуры. Высокі ўзровень і дасканаласць выканання музычных твораў пасадзейнічалі таму, што ансамбль быў запрошаны ў Менск для запісу на рэспубліканскім радыё.



*Аркестр пры райсельгастэхніцы 1978- 2004 гг.*



Академия—школе

## Агитбригада

Наверное, долго будут вспоминать старшеклассники Горецкой СШ № 3 вечер встречи с членами агитбригады факультета механизации сельского хозяйства.

И хотя этот вечер в прошлом, все же мне хочется рассказать о нем. Вначале зрителям был представлен вокальный ансамбль в составе В. Дубовца, Б. Кирильчика, Е. Евдокимова, А. Доменко, Н. Куцко, Н. Щербицкого. В репертуаре ансамбля песни советских композиторов «Баллада о красках», «За того парня», «Не плачь, девчонка».

Потом на сцену выходит Владимир Помаз. Соло на баяне. «Полонез» Огинского и «Выходной марш» из кинофильма «Цирк».

Ушел под аплодисменты со сцены В. Помаз и на смену ему выходит наш рассказчик Николай Щербицкий. Он же — ведущий, «голова» концерта.

Николай Щербицкий начинает читать на украинском языке фельетон «Как мы с кумом футболистами были». Можете представить, как воспринимали фельетон школьники. Столько было смеха, искренних аплодисментов!

И снова встреча с хорошей песней. Поет Николай Куцко. Аккомпанирует ему Виктор Семчин.

Потом зрители встретились с гитаристами Александром Грудино и Геннадием Ивановым. Их очень внимательно слушали. Да я и сам будто впервые открывал для себя этих ребят. Так замечательно, так красиво они играли.

Концерт окончился. Зрители нехотя прощались с артистами агитбригады. После концерта я попросил завуча школы Г. Ф. Величкович высказать свое мнение о концерте. Вот что она сказала:

— Впечатление от концерта хорошее. С большим интересом ребята смотрели и слушали. Выразили желание встречаться почаще. Особенно понравилось выступление вокального ансамбля и др.

Как бы подводя итоги выезда, ответственный за концерт Алексей Зубарев словами Л. Толстого выразил всеобщее мнение... «искусство помогает познавать мир чувствами, так же как наука — разумом».

А. ЖЕЛУДОК.

г. Горки. БССР, Тип. БСХА. МСХ. Зак. 2730, тир. 3800. Адрес редакции: адм. корпус, ком. 263, тел. 2—82.

Потым была вучоба ў Беларускай сельгасакадэміі, дзе мяне таксама запрасілі ў факультэцкі ансамбль народных інструментаў. Спачатку гэта была гітара, а потым домбравы кантрабас. Пад час вучобы, акестр быў узнагроджаны Дыпломам Упраўлення культуры Магілёўскага абылвыканкама. Дадаткова, разам з аднагрупнікам Генадзіем Івановым, мы пад гітару спявалі дуэтам ў факультэцкай агідбрыгадзе. Дэканат падтрымліваў актыўных удзельнікаў мастацкай самадзейнасці, і гэта на ўвесь час вучобы забяспечыла мне месца ў інтэрнаце.

Калі пачалася праца ў Шклоўскай райсельгастэхніцы, зноў давялося ўдзельнічаць у мастацкай самадзейнасці на прадпрыемсве. Тут быў створаны ансамбль пад кіраўніцтвам Алега Скарахода. На гэты раз маім інструментам становіцца бас-гітара. Ансамбдь прымаў удзел у разнастайных святочных вечарынах, агульнагарадскіх мерапрыемстваў і нават запрашаўся на вяселлі.

Агулам, больш як два дзесяцігоддзі, мне даводзілася быць далучаным да мастацтва. Пра свой удзел у мастацкай самадзейнасці засталіся самыя найлепшыя ўспаміны. Далучэнне да мастацтва дазволіла зразумець усю яго прыгажосць, тое, што яно здольна вылечыць, здольна абудзіць у душы цудоўныя і моцныя пачуцці. І галоўнае - праз творчасць яшчэ больш умацаваўся гонар за сваю Радзіму.

"Жыццё кароткае, шлях мастацтва доўгі", - прамовіў вялікі старажытнагрэцкі мысляр і заснавальнік медыцыны Гіпакрат. Ужо ў 16 стагоддзі. В. Гётэ паўтарыў гэтую думку ў сваёй трагедыі "Фаўст", сказаўшы, што "мастацтва даўгавечнае, а жыццё наша кароткае". Сэнс дадзеных выслоўяў заключаецца ў тым, што, нягледзячы на тое, што кожны чалавек смяротны, плён яго розуму, духу і душы жывуць вечна.

***Алесь Грудзіна,***
*Шклоўская арганізацыя ТБМ.*

## Вытанчаныя дамы і галантныя кавалеры сабраліся ў аграгарадку Бердаўка Лідскага раёна на свяце *"Маёнтак Дамбавецкага запрашае… на шляхецкі баль!"*

Селета ў сядзібе Аляксандра Дамавецкага адбыўся сапраўдны баль, у якім прынялі ўдзел жанчыны ў прыгожых строях, мужчыны ў строгіх касцюмах. Былі танцы, гульні ў шарады і фанты, дэкламацыя лірычных вершаў. Прыняць удзел у забавах мог любы госць свята.




Пары кружыліся ў вальсе, танцавалі паланэз, завіхаліся ў кадрылі. Пад класічную музыку ў жывым выкананні калектыва скрыпачоў "Славяначка" ўдзельнікі балю вялі свецкія гутаркі, адпачывалі ў гульнёвым і чайным салонах. Сапраўдным упрыгожаннем балю стаў калектыў "Эпатажны блюз" Наваельненскага Дома культуры, удзельнікі якога правялі майстар-клас, дзе танцавалі пад рытмы полькі, кацільена і нават сіртакі.



Працавала выстава жаночых аксэсуараў "Вытанчаная мода", дзе можна было ўбачыць вінтажныя ўпрыгожванні - завушніцы, каралі, пярсцёнкі; таксама сумачкі, заколкі, пудэлкі, веера…



На працягу свята працавала фотаэкспазіцыя "Замкі і палацы Беларусі", былі арганізаваны фотазоны.

Адным з цікавых момантаў балю стала дэфіле ў капелюшах. Якіх толькі іх тут не было: з футра, воўны, тканіны, аздобленыя кветкамі і стужкамі, пер'ем і бліскучымі камянямі. Дамы вельмі артыстычна прадэманстравалі ў дэфіле галаўныя ўборы і атрымалі бурныя апладысменты ад гледачоў.



Амаль дзве гадзіны балю праляцелі, як дзве хвіліны! Мелодыі вальса і паланэза яшчэ доўга будуць гучаць у думках прысутных.

***Алена Габіс**, метадыст аддзела метадычнай і культурна-масавай работы ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці".*

## "ЛІТФЭСТ ПА-ЛІДСКУ" ПРАЦЯГВАЕЦЦА!

Папулярызацыя чытання выйшла за межы звыклых бібліятэк і прывяла да інтэграцыі кніжнай справы ў гарадское і прыроднае асяроддзе. Зараз многімі пераасэнсоўваецца ідэя даступнай кнігі, якую можна ўзяць у кавярні, калі п'еш ранішнюю каву, у альтанцы, дзе хаваешся ад дажджу, або на прыпынку, калі чакаеш аўтобус. "Літфэст па-лідску" робіць кнігу максімальна набліжанай да чытача, таму ўсё часцей можна сустрэць супрацоўнікаў бібліятэк з кнігамі і перыядычнымі выданнямі за межамі бібліятэк.

У філіяле "Бярозаўская гарадская бібліятэка" была праведзеная хвілінка інфармацыі "Прыйшоў Спас - усяму час". Бібліятэкар пад адкрытым небам распавядаў чытачам пра гісторыю з'яўлення свята. Дзеці з задавальненнем успомнілі прыказкі, прымаўкі і загадкі пра яблыкі, у канцы мерапрыемства загадвалі жаданні, частуючыся салодкімі пладамі.



Супрацоўнікі філіяла "Лідская гарадская бібліятэка № 4" вырашылі далучыць да чытання моцную палову чалавецтва, менавіта з гэтай мэтай наведалі дыспетчарскую станцыю Лідскага аўтавакзала, дзе кіроўцы міжгародніх маршрутаў змаглі атрымаць самую свежую і актуальную інфармацыю з перыядычных выданняў.



Часопісная палянка "Гэта варта пачытаць!" была арганізавана філіялам "Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка" ў рамках "Літфэсту па-лідску". Дзецям распавялі, што ў бібліятэцы акрамя кніг, можна ўзяць і пачытаць часопісы, якія дапамогуць адказаць на многія пытанні. У часопісах можна знайсці карысныя артыкулы, пачытаць казкі, вершы, апавяданні, а можна праявіць сваю кемлівасць, трохі падумаць ці проста пагуляць. А хто хоча весела правесці час, знойдзецца і часопіс, у якім любімы герой адправіць дзяцей у вясёлае падарожжа. На палянцы свае старонкі для дзяцей раскрылі часопісы: "Познайка", "Мир путешествий", "Домашний любимец", "Здаровы лад жыцця", "Юный техник и изобретатель", "Том и Джерри", "3/9 царства" і многія іншыя займальныя выданні.



Падчас летніх канікул дзеці большую частку вольнага часу праводзяць на свежым паветры, на дзіцячых гульнявых пляцоўках у коле сяброў. Менавіта там іх і застаў "Літфэст па-лідску". Супрацоўнікі філіяла "Лідская гарадская бібліятэка № 5" арганізавалі для дзяцей гульнявую праграму з цікавымі і пазнавальнымі конкурсамі і віктарынамі. Каб не расставацца з кнігамі, многія адразу ж вырашылі наведаць бібліятэку і ўзяць іх з сабой дадому, бо час прайшоў незаўважна, а кнігі яшчэ захоўваюць у сабе так шмат цікавага.



Адпачывайце летам разам з нашымі бібліятэкамі!

Адпачывайце разам з "Літфэстам па-лідску"!

***Кацярына Сандакова**, Бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы".*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sejlawiczy@gmail.com, kajety@list.ru

***Рэдакцыйная калегія:***
Эдуард Акулін, Алена Анісім, Алеся Аўласевіч, Юрась Баравік, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

**http://nslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 16.08.2021 г. у 17.00. Замова № 1903.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,88 руб., 3 мес.- 8,64 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.